Моладзь супраць СНІДу

# Мне не ўсё роўна. А табе?

***Гэта сёлетні дэвіз сусветнай кампаніі супраць СНІД, у межах якой у Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі адбылася вечарына, прысвечаная гэтай, як кажуць, чуме ХХ, ды ўжо і ХХІ стагоддзя.***

У фае і калідорах была разгорнута выстава работ, дасланых дзецьмі на тэматычны конкурс плаката, тэмамі якіх былі СНІД, наркаманія ды здаровы лад жыцця. Лірычную замалёўку паводле славутай "Свіцязянкі" прадставіў тэатр юнацкай творчасці пад кіраўніцтвам Наталлі Ракоўскай. А хлопцы з інтэлектуальнага клуба "Ветразь" паказалі казку наконт таго, як Іванушка-дурачок выратаваў сваё царства ад СНІД. Спадабалася ўсім і віктарына, якую правяла кіраўнік гэтага клуба Наталля Шышова.

Было бачна, што хлопчыкі і дзяўчынкі з розных школ Мінска, якія сабраліся тут, неабыякава ставяцца да гэтай злабадзённай праблемы. Так, ім гэта зусім не ўсё роўна. А вам?

На жаль, адказ на гэтае пытанне гучыць далёка не заўсёды станоўча. Аб гэтым сведчаць і статыстычныя даныя (афіцыйныя, а яшчэ больш – неафійцыйныя), што мы пачулі ў прамове метадыста Нацыянальнага цэнтра прафілактыкі СНІД Рэспублікі Беларусь Алены Гурман. Таму і акцыі, падобныя той, што адбылася ў той вечар у Нацыянальным цэнтры, маюць права на існаванне. Яны, як той звон, закліканы абуджаць нашу свядомасць. Бо ніхто, акрамя нас саміх, не здолее абараніць свет ад гэтай смяротнай небяспекі.

**Юрый БОНДАРАЎ.**

НА ЗДЫМКАХ: падчас правядзення акцыі.

**Фота аўтара.**

Погляд

# Праз намаганні, пакуты - да радасці. І не наадварот

***З канферэнцыі, прысвечанай праблемам псіхічнага здароўя, я выходжу, перапоўненая негатыўнай інфармацыяй. Жывеш сабе спакойна і быццам бы нядрэнна, а тут цябе пачынаюць бамбіць такімі фактамі, як "пастаянны рост захворванняў", "пастаянная тэндэнцыя павелічэння" хранічнага алкагалізму, алкагольных псіхозаў, наркатычнай залежнасці, самагубстваў, дэпрэсій, злачыннасці і г.д. Іншымі словамі, пакуль ляжыш сабе на канапе, усё гэта распаўсюджваецца і распаўсюджваецца. І кожны наступны год - усё больш "плённы" ў гэтым сэнсе, чым папярэдні.***

Усё, думаецца, дажыліся. Мабыць, некалі і ўласная гісторыя захворвання папоўніць гэты сумны спіс? А як інакш зразумець словы аб "пастаянным пагражальным павелічэнні" такіх з'яў? Пачынаю згадваць сваіх сяброў і знаёмых. Увогуле, людзі - нічога сабе, без асаблівых перагібаў.

Але гэта з пункту гледжання сучаснага чалавека. Асяроддзе, у якім нарадзіўся і вырас, аўтаматычна ўспрымаеш як нармальнае. Так, для жабы, што нараджаецца ў балоце, лепш месца і няма. Няма з чым параўнаць. Але я прыгадваю расказы маёй бабулі пра яе дзяцінства. Тады ў іх вёсцы быў толькі адзін "канкрэтны" п'яніца і яшчэ пара "спрэчных" кандыдатур. Нават таму "канкрэтнаму" ў гэтай справе далёка да сваіх сучасных пераемнікаў. Пра наркотыкі і размовы быць не магло. Людзі былі неразбэшчаныя, працавітыя, набожныя, а таму і са здаровай псіхікай. Я думаю, што сказала б мая прабабка, калі б пабачыла сённяшніх хлопцаў і дзевак. Напэўна, нічога - мову б адняло. А нам быццам бы і нармальна. А з яе часоў не прайшло яшчэ і ста гадоў. Толькі пры такім маштабным супастаўленні і бачыш розніцу. А цяпер уявіце сабе, што будзе з нашымі ўнукамі і праўнукамі. Калі сітуацыя будзе развівацца так жа, як і зараз, дык у нас - сённяшніх, звыклых да свайго балота, - у сваю чаргу мову адыме.

Дык што ж рабіць? Канешне, узнікае вялікая спакуса зноў-такі легчы на канапу, расслабіцца і выкінуць з галавы ўсе гэтыя нечыя дэпрэсіі, самагубствы і г.д. Маўляў, буду жыць як жывецца. Якая мне справа, як жылі да мяне і як будуць жыць пасля? Што я магу зрабіць для ўсяго свету, які так імкліва дэградуе? Але нельга ставіць сябе асобна ад усяго свету. І не трэба рабіць нешта адразу для ўсяго свету. Цудоўна, калі зробіш штосьці хоць бы для сябе. У кожным з нас ёсць небяспечнае зерне. І якраз расслабленасць, абыякавасць, заблытанасць у сваіх думках без асаблівых спроб разблытацца - цудоўныя ўмовы для ўсходаў. Не трэба даваць гэтаму зерню прарасці. А калі прарасло? Тады трэба, згодна вядомаму афарызму, "глядзець у корань" - дайсці да сапраўдных прычын.

Вядома, алкагольная і наркатычная залежнасць - толькі вяршыня айсберга, толькі вынік. Яна сведчыць пра "адсутнасць даверлівых адносін, пра канфлікты ў сям'і, няўдачы ў вучобе, непаразуменні з акружэннем, незадаволенасць сабою" - менавіта такія думкі гучалі ў выступленнях удзельнікаў вышэйназванай канферэнцыі. Дарэчы, кантынгент падабраўся сур'ёзны: нарколагі і галоўныя ўрачы гарадскіх цэнтраў здароўя, загадчыкі кабінетаў здаровага ладу жыцця - псіхолагі, псіхіятры розных узроўняў і некаторыя немедыцынскія работнікі.

Яны кажуць яшчэ, што ў сям'і трэба больш уважліва ставіцца да дзіцяці, размаўляць з ім спачатку пра алкаголь, потым пра наркотыкі - да таго, як яму давядзецца сутыкнуцца з гэтым. Трэба выхоўваць дзіця самастойнай асобай, здольнай супрацьстаяць негатыўнаму ўплыву.

Але я лаўлю сябе на думцы, што ледзьве не засынаю, слухаючы ўсе гэтыя даклады. "Так, усё зразумела, але што канкрэтна?" І я здзіўляюся, наколькі ў нас выпрацаваны так званы імунітэт у дачыненні да сур'ёзнай і сапраўды важнай інфармацыі, асабліва калі яна нейкім чынам адносіцца да неабходнасці змяніць асабісты лад жыцця. Ну чаму так адбываецца? Таму што думаем, што гэта - не пра нас? Што з намі будзе інакш? Не, звычайна мы ўвогуле нічога не думаем, проста прапускаем усё міма вушэй, бо не хочам варушыць мазгамі.

"Звярніце ўвагу на кніжныя прылаўкі, - кажа ў сваім выступленні намеснік старшыні камісіі па справах непаўналетніх Мінаблвыканкама Анатоль Мікалаевіч Сушчэня. - Нам прапануюць гатовыя лепшыя сачыненні і іншыя лепшыя работы. Купі - і не трэба нават пальцам варушыць. Нас прывучаюць да пошуку лёгкіх шляхоў у жыцці, да жыцця ў максімальна расслабленым стане. Мэта - атрымаць нездаровы, паслухмяны натоўп".

Не будзем ламаць галаву над тым, чыя гэта мэта - сусветнага сіянізму, блока НАТА, Усама Бен Ладэна з яго паплечнікамі ці яшчэ чыя. Але даводзіцца прызнаць, што, выпадкова ці не, - карціна, якая складваецца, вельмі нагадвае спланаваную акцыю, накіраваную супраць чалавечай асобы. Дык вось, калі расслаблены стан асобы дасягнуты, калі яна не хоча нічога бачыць, чуць, калі ідзе шляхам найменшага супраціўлення, калі не хоча нават актыўна абараняцца, дык самы час перайсці да наступнага этапа - улезці ў душу і пераблытаць усё ў ёй, паставіць чалавека з ног на галаву. Як? З даўніх часоў у філасофіі інтэрпрэтуецца думка аб тым, што духоўныя састаўныя чалавека - розум, эмоцыі, жаданні. Вядома, розум павінен быць галавою. Але ў сучаснага чалавека галавою сталі жаданні.

Які ж этап наступны? Накіраваць гэтыя жаданні на самазнішчэнне.

"З намі адбываецца жахлівая псіхічная аперацыя, - працягвае Анатоль Мікалаевіч. - У маладога пакалення падменены каштоўнасці. Тое, што было добра, стала дрэнна. І наадварот. І дапамагае ў гэтым тэлебачанне. Кожны трэці фільм - баявік, кожны пяты - эротыка. Сям'я прысутнічае толькі ў 10 працэнтах фільмаў. Мэты і матывы фільмаў: 17 працэнтаў - забойствы, 40 - задавальненне сексуальных патрэб, 17 - абарона жыцця і г.д." "У маладзёжным асяроддзі побач з іміджам рашучасці, смеласці, прыгодніцтва - ужыванне алкаголю, курэнне", - кажа Людміла Анатольеўна Андрэева, нарколаг упраўлення аховы здароўя.

Заўважце, у апошні час у нас з'явілася паняцце іміджу. Імідж - вобраз, мадэль чалавека знешняга, такога, якім ён хоча выглядаць перад астатнімі. Чаму ўзнікла патрэба ў іміджы? Чалавек баіцца паказваць сябе сапраўднага, баіцца адкрываць перад іншымі душу, бо ўсё часцей жыццё паказвае, што туды нехта плюне. Таму імідж, акрамя іншага, - гэта латы.

І што ж, чалавек сам фарміруе свой імідж? Не, ён ужо выпрацаваны і навязваецца пры дапамозе хоць бы таго ж TV. Мы ўжо гатовы яго ўспрымаць. І які ж вобраз нам прапануюць прыняць? Джэймса Бонда, Тэрмінатара, Разбуральніка? А, можа, Кінг-Конга? У любым выпадку малады чалавек імкнецца сёння здавацца ні ад каго і ні ад чаго не залежным, "крутым", сексуальна разняволеным, халодным, абыякавым і г.д. Гэта і мае на ўвазе Анатоль Мікалаевіч, калі кажа, што дрэннае стала добрым, і наадварот. А шкада. Сапраўдная прыгажосць - там, унутры, у душы, якую мы так старанна хаваем. Само па сабе яно быццам бы і нічога - гэта асабістая справа кожнага, што і куды хаваць. Але ж пагроза ў тым, што адбываецца заўважнае раздзяленне чалавека знешняга і ўнутранага. Сапраўдны ён ужо не падабаецца сабе. "Калі царства раздзялілася само ў сабе, не можа ўстаяць тое царства" - напісана ў Бібліі. Ды й не трэба так далёка хадзіць - кожны псіхолаг пацвердзіць выключна шкодную, разбуральную ролю раздваення асобы.

Пра што ўсё ж такі сведчыць ужыванне алкаголю ці наркотыкаў? У рэшце рэшт, пра імкненне да лепшага. Такім чынам чалавек "танна" кампенсуе недахоп станоўчых эмоцый ці прагна павялічвае іх. У звычкі - ужо больш просты і грубы механізм дзеяння. Тады ўжо чалавек спрабуе вырвацца.

Але звычка так проста не адпусціць. Пачынаюцца пакуты. Чалавек думае: "Так і гэтак - мне дрэнна. Навошта трываць? Віп'ю, якая розніца?" І п'е. Потым ён абвінавачвае сябе ў тым, што не змог устрымацца, узнікае пачуццё адчаю. І ён п'е яшчэ больш. Усё гэта, мне здаецца, магчыма таму, што нашай жыццёвай філасофіяй стаў сучасны геданізм з элементамі сафістыкі.

Вышэйназваны прыклад - яшчэ не горшы варыянт. Тут назіраецца нейкі рух, тут чалавек ужо стаў пакутаваць і задумвацца. Калі ён не кіне думаць і спрабаваць вырвацца, хоць спачатку і дарэмна, ён паступова разбярэцца з гэтым сафізмам і выйдзе пераможцам. Але большасць людзей проста не задумваецца, не спрабуе. Яны - увасабленне вядомай прыказкі: "Пакуль гром не грымне..." Але грымне абавязкова. Жыццё паставіць перад выбарам: або дрэнная звычка, або нешта сапраўды вартае.

Выйсце ёсць заўсёды. Каб вырвацца, напэўна, трэба толькі цярпець. Сцяўшы зубы. Пазбаўленне ад дрэннай звычкі нечакана дае адчуванне такой свабоды! Геданізм - дрэнны падмурак для жыцця. Трэба разумець, што ў жыцці нельга пазбавіцца ад пакут, намаганняў, як бы ні хацеў гэтага. Дык лепш накіроўваць намаганні на тое, каб ісці ўверх, а не на тое, каб стрымліваць падзенне.

Словы "алкаголь", "наркотыкі" - з таго ж шэрагу, што і "боль", "сум", "страта", "сорам", "смерць". І не інакш. Дарэмна імкнуцца падмануць жыццё.

Не так проста растлумачыць гэта маладому чалавеку. Як ні выхоўвай яго дома, у школе - у жыцці шмат спакус. Брудная лужа здаецца многім з нас такой прывабнай, пакуль мы не ўпадзем у яе. Таму мне здаецца, што маладога чалавека трэба выхоўваць перш за ўсё так, каб ён не ўпаў. А калі ўпадзе - каб мог падняцца. Будзе жыццёвы вопыт.

Не я прыдумала, што цяжкасці - неад'емная частка жыцця. І гэта варта прыняць за аснову. Але разам з тым рэальнае жыццё шмат прыгажэй за самыя неверагодныя летуценні. Трэба толькі не перашкаджаць сабе ўспрымаць гэтую прыгажосць.

**Вольга ЗАЙКІНА.**

Чытач ставіць праблему

# Ці знойдзецца ахвотнік?

Паважаная рэдакцыя!

Да вас звяртаецца калектыў работнікаў школьных бібліятэк Наваполацка з праблемамі, якія павінны знаходзіцца ў полі зроку Міністэрства адукацыі Беларусі.

Калісьці быў лозунг: "Школьная бібліятэка – кабінет № 1". Лозунг, вядома, правільны, але школьныя бібліятэкі па-ранейшаму застаюцца найбольш слабымі ў агульнай структуры бібліятэк.

Па-першае, яны быццам нічые. Заканадаўчая база, якая вызначае статус школьнай бібліятэкі і бібліятэкара як члена школьнага працоўнага калектыву, вельмі размытая. Школьны бібліятэкар, з'яўляючыся членам педагагічнага савета школы, тым не менш не адносіцца да педработнікаў, хоць выконвае самую разнастайную работу: замену ўрокаў, правядзенне заняткаў па навучанні бібліятэчна-бібліяграфічнай дасведчанасці, масавых мерапрыемстваў і г.д.

Два разы ў год для ўсіх школьных бібліятэкараў надыходзіць гарачая пара, якую можна назваць адным словам – падручнікі. Бібліятэкарам, якія працуюць з фондам падручнікаў, вельмі часта даводзіцца здабываць падручнікі з іншых школ, суседніх гарадоў, а пасля заканчэння навучальнага года –вяртаць назад. Школьнаму бібліятэкару даводзіцца прымаць, рэгістраваць, штампаваць і размяркоўваць падручнікі па класах. На працягу навучальнага года бібліятэкар сочыць за рухам фонду школьных падручнікаў і адлюстроўвае яго ў дакументах па ўліку. Выконваць гэтую складаную і карпатлівую працу можа любы іншы работнік школы, але наўрад ці знойдзецца ахвотнік несці адказнасць за 50 тысяч асобнікаў падручнікаў на суму звыш 7 мільёнаў рублёў за мізэрную даплату – 7500 рублёў.

Выклікае здзіўленне і той факт, што загадчыкі школьных бібліятэк не маюць даплаты за кваліфікацыйную катэгорыю. Атрымліваецца, што людзі, якія адказваюць за арганізацыю ўсёй работы ў бібліятэцы, з адукацыяй і вялікім вопытам работы, не маюць матэрыяльнага ўзнагароджання за прафесійнае майстэрства і атрымліваюць менш, чым бібліятэкар другой катэгорыі.

Кажуць, што школа трымаецца на трох кітах: настаўнік – кніга – вучань. Дык давайце не будзем забываць пра школьныя бібліятэкі, якія з году ў год цярпліва і старанна выконваюць сваю работу, такую непрыкметную, але такую патрэбную людзям.

**С.ЛОЎКІНА,**
**сярэдняя школа № 2 Наваполацка і інш.**
**(усяго 14 подпісаў).**

# У школу... на грузавіку?

У рэдакцыю звярнуліся бацькі дзяцей, якія пражываюць у вёсцы Варотнае Пружанскага раёна, а вучацца ў Ліноўскай сярэдняй школе. Яны, у прыватнасці, пішуць: "Да ліку балючых праблем сельскай школы адносіцца падвоз дзяцей. Нашы дзеці, можна сказаць, трапляюць у школу выпадкова. Калі з цэнтральнай сядзібы вязуць даярак у вёску Варотнае, а потым назад, заадно дзяцей падвозяць. А калі не – прыходзіцца 7 кіламетраў ісці пешшу.

Школа працуе ў дзве змены. Раніцай, каб паспець на машыну, трэба ўставаць у 6 гадзін, а калі не паспееш, чакаць ніхто не будзе. Дарэчы, пра машыну. Гэта так званая "лятучка", перааблсталяваная грузавая машына. Ездзіць на ёй, асабліва зімой, мякка кажучы, не вельмі прыемна. А калі ў калгасе няма паліва, то яна ўвогуле на прыколе.

Мы разумеем кіраўніцтва калгаса "Ліноўскі": вельмі ж цяжка зараз абстаяць справы ў сельскай гаспадарцы. Але ж гэта дзеці. І чаму яны павінны пакутаваць ад неразваротлівасці дарослых".

Далей у лісце ідзе размова пра тое, што пасля такой дарогі ўжо няма ў дзяцей сіл і жадання выконваюць хатняе заданне, а хочацца аднаго – хутчэй легчы спаць. І нават тыя вучні, якія вучацца добра, нярэдка гавораць: "Як ужо надакучыла гэтая школа".

*Пракаменціраваць ліст мы папрасілі загадчыка Пружанскага раённага аддзела адукацыі Мікалая Якаўлевіча Дулько. Вось што ён сказаў:*

– Праблема падвозу дзяцей у школу ў раёне стаіць вельмі востра. У 2001 годзе абласным выканаўчым камітэтам на раён былі выдзелены два аўтобусы. Яны падвозяць дзяцей з вёсак, аддаленых на 8–9 кіламетраў. І часта, каб прывезці дзяцей у школу, даводзіцца аб'язджаць дзве-тры–чатыры вёскі. Стараемся пералічваць гаспадаркам грошы на бензін. Але зараз канец года, і бюджэт раённага аддзела адукацыі не паспявае за ростам цэн, грошай на рахунку ледзь-ледзь хапае на выплату зарплаты.

Сапраўды, у раёне ёсць аб'ектыўныя цяжкасці. Але сітуацыя ў будучым будзе складвацца такім чынам, што ў сувязі з памяншэннем колькасці дзяцей будуць вызваляцца пэўныя грашовыя сродкі. Дык можа ёсць сэнс падысці да размеркавання гэтых сродкаў па-гаспадарску – пакінуць іх на карысць тых дзяцей, якія ўсё ж такі будуць хадзіць у школу.

**Ала ШАЎЦОВА.**



# І бібліятэка, і... салон

***Я сустрэлася з загадчыцай Мінскай гарадской бібліятэкі № 18 А.І.Ляпіч - з творчай асобай па складу характару. Яна, здавалася, не расказвала пра сваю працу, а падсумоўвала ўсё ёю зробленае. За разважаннямі выразна прасочвалася: "Я люблю вас, людзі, і жыву вашай удзячнасцю".***

Скончыўшы ў 1980 годзе Мінскі інстытут культуры, Алена пачала працаваць па спецыяльнасці – бібліятэкарам. Праца аплачвалася, скажам так, мізэрна. І неабходнасць папраўкі матэрыяльнага становішча стала відавочнай. Спроба заняцца камерцыяй паказала, што за грошы ні самасцвярджэння, ні самапавагі не купіш. Таму без усялякіх ваганняў яна ўсё ж вярнулася ў бібліятэчную сістэму.

Сталічная бібліятэка, размешчаная ў Першамайскім раёне, якую Алена Ляпіч узначаліла ў 1995 годзе, пакідала жадаць лепшага. Будынак быў узведзены ў 1976 годзе і, нягледзячы на прыгожы ў літоўскім стылі інтэр'ер, знаходзіўся ў аварыйным стане: цякла столь, сцены былі пакрыты цвіллю, а значыць, псаваліся і кнігі, не імкнуліся сюды і людзі. Элементарныя выгоды адстунічалі – нават ваду прыбіральшчыцы прыносілі з мясцовага ЖЭКа. Не будучы па натуры панікёрам, Алена Іванаўна занялася добраўпарадкаваннем храма кніг.

Сёння ў бібліятэцы суха, утульна і... адкрыта карцінная галерэя. Тут выстаўляліся, пакідаючы ў дар адзін са сваіх твораў, многія вядомыя беларускія мастакі. Апошнім часам узяты накірунак на дапамогу таленавітым майстрам пэндзля, якія не маюць дадатковай падтрымкі. Напрыклад, тое, наколькі іх талент варты шырокага агляду і рэкламы, перад паказам вызначае прафесійны мастацтвазнаўца. Прайшла ўжо выстава галотнаў воінаў-афганцаў, каля карцін якіх наведвальнікі доўга стаялі ў задуменні. Экспанаты глуханямых дзяцей дапамаглі многім ачысціцца духоўна. Іх вырабы, малюнкі і карціны паказалі, які таленавіты і шчаслівы той, хто любіць жыццё ва ўсіх яго праявах, умее яго расквеціць, упрыгожыць і пераўтварыць. На адной з апошніх выстаў былі прадстаўлены працы рэчыцкага мастака-аўтадыдакта Д.Мустафіна – чалавека з сусветным імем, але які не мае мастацкай адукацыі.

Асаблівая ўвага ўдзяляецца дзіцячай творчасці. Мо таму выставы малюнкаў дзяцей – рознага ўзросту. Некалькі гадоў запар, па магчымасці, юныя таленты бясплатна атрымлівалі тут пэндзлі, паперу. Хаця мецэнацтва, на жаль, скончылася, але дзеці працягваюць прыходзіць і маляваць.

У бібліятэцы стала нормай правядзенне ўрокаў, якія збіраюць разнастайную і рознаўзроставую аўдыторыю. Праўда, калі ўсё толькі пачыналася, той-сёй успрыняў гэтую з'яву як эпатаж. Цяпер усім зразумела, што гэта быў пошук новых форм работы.

**- Алена Іванаўна, як узнікла задума зрабіць жывапіс прыцягальным сродкам (у сэнсе папаўнення, аўдыторыі юных чытачоў)?**

– Ідэю падказаў народны мастак Беларусі А.М.Кішчанка. Гэта мой сябра, настаўнік збавіцель. Не ведаю, як у далейшым склалася б мая праца (ды і жыццё ўвогуле). Але многім я абавязана яму.

**- Мне падалося, што так кажучы, вы выказалі словы ўдзячнасці настаўніку?**

– Аляксандр Міхайлавіч заўсёды ведаў, што я стаўлюся да яго з вялікай пашанай. Ужо тры гады, як ён памёр, але я адчуваю ўсё большую патрэбнасць у яго парадзе, падтрымцы. Я засвоіла ісціну – калі б людзі навучыліся не проста памятаць, а гучна гаварыць "дзякуй" за дапамогу або проста за параду, свет не быў бы такі жорсткі. Дабро стала б хутчэй перамагаць, калі б людзі маглі адразу перапрасіць за нанесеныя крыўды. Але, на жаль, многія крыўдзіцелі не абцяжарваюць сябе самаедствам. Думку пра міласэрнасць і павагу да сваіх настаўнікаў я заўсёды даводжу да сваіх слухачоў на ўроках, што праводзяцца ў бібліятэцы.

**- Калі можна, больш падрабязна, што гэта за "ліквідацыя непісьменнасці"?**

– Усяго толькі мерапрыемства дзеля дапамогі школе, своеасаблівыя пазакласныя заняткі. Сувязь з навучальнымі ўстановамі раёна ў нас цесная, але і з іншых месц да нас таксама бываюць дэлегацыі. Мы праводзім урокі для вучняў 8 – 10 класаў па сусветнай культуры. За сорак хвілін, вядома, усяго не раскажаш, таму "вады" ў тым, што мы даем дзецям, няма.

**- А гэтыя розумы дапытлівыя?**

– Слухаюць вельмі ўважліва, а калі пасля заняткаў яшчэ і пытанні задаюць, то разумееш, што маленькі кавалачак твайго жыцця прайшоў не дарэмна – перад табой сядзелі неабыякавыя слухачы. Не магу сцвярджаць, што павярнула іх тварам да мастацтва – гэтае пачуццё трэба выхоўваць у душы дзіцяці з маленства. Мяркую, міма выставы яны ўжо не пройдуць.

Практыкуем так называемы "Вольны час у бібліятэцы". Гэта ўрокі па розных тэмах, якія могуць заказаць наведвальнікі. Для школьнай праграмы яны – вялікая падмога, таму настаўнікі таксама завітваюць да нас з ахвотай. Мы шмат ведаем пра флору і фауну нашай радзімы. Але тое, што расказвае егер, паляўнічтвазнаўца Н.Жукаў, вы нідзе не пачуеце і не знойдзеце. Лектар, які ўводзіць вас у свет літаратуры, паведаміць такія факты з жыцця вядомых людзей, што іх талент яшчэ больш вас уразіць.

Спецыяльна для малодшых чытачоў ладзім рознапланавыя гутаркі.

**- А якая аддача вашаму энтузіязму і нават у нечым самаахвярнасці? Бо дакладна ведаю, што ваш альтруізм лічылі смешным і кпліва ўказвалі, што бібліятэка не школа і не мастацкі салон, яе прызначэнне - кніжкі выдаваць.**

– Час расставіў усё на свае месцы. Дзякуючы такому насычанаму функцыянаванню бібліятэкі колькасць чытачоў у нас павялічылася ў некалькі сот разоў. Хіба гэта не важны фактар і аргумент?

**Ларыса ВЛАДЫКА-РЫХЦІКАВА.**

